**№ 138 (1951)**

Серада, 28 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**


**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +26...+28, дождж, навальніца, уначы — +18...+20, дождж; у Брэсце ўдзень — +23...+25, уначы — +18...+20, навальніца; у Гродне ўдзень — +21...+23, дождж, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +18...+20, навальніца; у Гомелі ўдзень — +29...+31, сонечна, уначы — +18...+20, дождж; у Магілёве ўдзень — +29...+31, сонечна, уначы — +19...+21, дождж.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Лазавік абяцае кандыдатам роўны доступ да СМІ

Цэнтрвыбаркам зробіць усё неабходнае для таго, каб кожны з кандыдатаў меў роўны доступ да СМІ. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН заявіў сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Мікалай Лазавік.

Ён адзначыў, што ў адпаведнасці з заканадаўствам кожны з кандыдатаў будзе мець права на 5-хвілiннае выступленне па тэлебачанні і радыё. Акрамя таго, яны змогуць апублікаваць сваю праграму ў адной з дзяржаўных газет, спіс якіх будзе яшчэ ўдакладняцца Цэнтрвыбаркамам.

Плануецца, што выступленні кандыдатаў па тэлебачанні будуць трансліраваць абласныя тэлекампаніі, а ў Мінску — тэлекампанія "СТБ" або "Першы нацыянальны канал". Час трансляцый, паводле слоў М.Лазавіка, — з 18 да 19 гадзін.

Радыёвыступленні кандыдатаў будуць трансліравацца абласнымі радыёстанцыямі, а ў Мінску — радыёстанцыяй "Сталіца" з 17 да 18 гадзін.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Канстытуцыйны суд займаецца жывёламі

Шэраг змяненняў у дзеючае заканадаўства аб жывёлах прапанаваў увесці Канстытуцыйны суд (КС) Беларусі. Адпаведны ліст КС накіраваў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Як паведаміла БелаПАН памочнік старшыні Канстытуцыйнага суда Людміла Мурашка, у сувязі са зваротам грамадскага аб'яднання абароны жывёл "Заасвет", суд разгледзеў палажэнні Правілаў утрымання хатніх сабак, кошак, а таксама адлову безнаглядных жывёл у населеных пунктах Рэспублікі Беларусь. Дадзеныя правілы былі зацверджаны пастановай Савета міністраў 4 чэрвеня 2001 года. У адпаведнасці з імі дазваляецца "ўтрымліваць сабак, кошак у займаемай адной сям'ёй асобнай кватэры, але не больш за дзве жывёлы ў асобнай кватэры шматпавярховага жылога дома. У кватэры, дзе пражывае некалькі наймальнікаў (уласнікаў), — не больш за адну жывёлу на сям'ю наймальніка (уласніка) пры згодзе ўсіх паўналетніх грамадзян, якія пражываюць у кватэры".

Канстытуцыйны суд палічыў неабходным прадугледзець права грамадзян на ўтрыманне хатніх жывёл звыш цяпер устаноўленай колькасці без мэты атрымання прыбытку.

## Акцыя «Ліст за краты»

Акцыю "Ліст за краты" пачала праводзіць незарэгістраваная грамадзянская ініцыятыва "Хартыя'97". Яе сутнасць — выказаць падтрымку арыштаваным удзельнікам акцыі, якая прайшла 21 ліпеня ў Мінску. Лісты падтрымкі жадаючыя могуць пісаць на адрас solidarnost@charter97.org. Усе пасланні будуць перададзены актывістам апазіцыі, якія знаходзяцца за кратамі.

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар "Хартыі" Алег Бябенін, ужо паступіла некалькі дзесяткаў лістоў, прычым некаторыя іх аўтары выказваюць салідарнасць не толькі з затрыманымі ўдзельнікамі акцыі, але і з арыштаванымі грамадска-палітычнымі дзеячамі Міхаілам Марынічам і Валерыем Леванеўскім.

Тым часам шэраг актывістаў апазіцыі, асуджаных за ўдзел у акцыі 21 ліпеня, пакінулі спецпрыёмнік-размеркавальнік ГУУС Мінгарвыканкама.

Нагадаем, што праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" аб'явіла ўсіх затрыманых удзельнікаў акцыі ў Мінску "вязнямі сумлення".

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## ЗША заклікаюць беларускія ўлады спыніць «наезд» на ЕГУ

Злучаныя Штаты Амерыкі заклікаюць беларускія ўлады спыніць спробы ліквідацыі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ) і спыніць "жорсткае падаўленне законнага права грамадзян на сходы і выказванне сваіх палітычных поглядаў". Пра гэта гаворыцца ў заяве прэс-сакратара Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Рычарда Баўчэра, якая распаўсюджана пасольствам Злучаных Штатаў у Мінску.

ЗША, адзначаецца ў заяве, "глыбока занепакоены рэпрэсіямі грамадскай супольнасці ў Беларусі, у прыватнасці, нападкамі беларускіх уладаў на акадэмічныя свабоды і правa сходаў".

У дакуменце, у прыватнасці, нагадваецца, што 21 ліпеня ЕГУ атрымаў прадпісанне аб неадкладным высяленні з будынка па адрасе: вул.П.Броўкі,3. Прадпісанне атрымана з Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Беларусі, якому прыналежыць будынак. За некалькі дзён да гэтага быў спынены дагавор арэнды з ЕГУ. "Гэты крок разам са спробамі беларускага ўрада прымусіць пайсці ў адстаўку рэктара ЕГУ Анатоля Міхайлава вымусіць універсітэт прыпыніць сваю дзейнасць і ставіць пад пагрозу будучыню ЕГУ і яго студэнтаў", — лічаць у Дзяржцэпартаменце.

## Міністр замежных спраў Латвіі занепакоены...

Міністр замежных спраў Латвіі Арціс Пабрыкс выказаў занепакоенасць "рэпрэсіямі ў дачыненні да мірных удзельнікаў" акцыі, што прайшла 21 ліпеня ў Мінску з нагоды 10-годдзя прэзідэнцкага кіравання Аляксандра Лукашэнкі. Аб гэтым гаворыцца ў заяве латвійскага МЗС.

Абыходжанне беларускіх уладаў з дэманстрантамі, зазначана ў дакуменце, "сведчыць аб іх нецярпімасці ў дачыненні да палітычных апанентаў, якія асмельваюцца выказваць пункт гледжання, што адрозніваецца ад афіцыйнага". "Такая нецярпімасць супярэчыць асноўным прынцыпам дэмакратыі", — падкрэсліваецца ў дакуменце.

Латвія таксама занепакоена абмежаваннямі свабоды прэсы ў Беларусі і лёсам зніклых людзей. "Ігнаруючы шматлікія заўвагі міжнародных арганізацый, беларускія ўлады працягваюць арышты і пераслед прадстаўнікоў палітычнай апазіцыі, дысідэнтаў і грамадскіх актывістаў", — гаворыцца ў заяве. Зазначана, у прыватнасці, што дагэтуль пад арыштам знаходзіцца былы пасол Беларусі ў Латвіі, былы міністр знешнеэканамічных сувязяў Беларусі, а цяпер — прадстаўнік палітычнай апазіцыі Міхаіл Марыніч.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Нацбанк будзе падымаць саўгас

Саўгас "Васілішкі" Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці стаў падшэфнай гаспадаркай Нацыянальнага банка ў рамках праграмы рэфармавання сельскай гаспадаркі.

Як паведаміў БелаПАН прадстаўнік упраўлення Нацыянальнага банка па Гродзенскай вобласці, упраўленне павінна прадставіць ураду трохгадовую праграму развіцця падшэфнага саўгаса. У выбары сродкаў аказання практычнай дапамогі няма ніякіх абмежаванняў, акрамя аднаго: гаспадарка павінна захаваць сваю спецыялізацыю — свінагадоўлю.

З прапановай аказаць саўгасу дапамогу, а менавіта забяспечыць навуковае суправаджэнне праграмы шляхам распрацоўкі найноўшых тэхналогій сельгасвытворчасці выступіў Гродзенскі аграрны універсітэт. Такім чынам, фінансавая дапамога і навуковы падыход павінны вывесці "Васілішкі" на ўзровень лепшых гаспадарак вобласці.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Не схавала...

Партыю залатых вырабаў канфіскавалі на мінулым тыдні мытнікі ў пагранічным пункце мытнага афармлення (ППМА) "Брузгі-2". Былі канфіскаваны 52 вырабы з золата — падвескі, бранзалеты, ланцужкі...

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта, беспрацоўная жыхарка Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці пры ўездзе з Польшчы ў Беларусь на мікрааўтобусе "Форд Транзіт" не ўказала вырабы з каштоўных металаў у мытнай дэкларацыі і не прад'явіла іх да мытнага афармлення.

Супрацоўнік ППМА інспектар Гродзенскай рэгіянальнай мытні вырашыў больш уважліва праверыць рэчы грамадзянкі. У выніку ў сумцы пасажыркі, якая знаходзілася ў транспартным сродку, і было знойдзена золата.

**Аляксей АРЭШКА.**

# Людміла Карпенка хоча, каб Сівакова не пусцілі ў Грэцыю

*Грамадскі абвінаваўца па Беларусі просіць грэчаскія ўлады адмовіць ва ўязной візе міністру спорту і турызму Беларусі Юрыю Сівакову. Адпаведны зварот у пасольства Грэчаскай Рэспублікі ў Расіі і Беларусі па сумяшчальніцтве накіравала кіраўнік офіса грамадскага абвінаваўцы Людміла Карпенка — удава вядомага беларускага палітыка Генадзя Карпенкі.*

Юрый Сівакоў павінен узначальваць беларускую спартыўную дэлегацыю на Алімпійскіх гульнях у Афінах, якія пройдуць з 13 па 29 жніўня. Аднак, як указваецца ў звароце, кіраўнік Мінспорту "фігуруе ў крымінальнай справе ў ліку асоб, падазроных у знікненні Ю.Захаранкі, В.Ганчара, А.Красоўскага і Д.Завадскага". Усе гэтыя людзі бясследна зніклі ў перыяд 1999—2000 гадоў, калі Ю.Сівакоў займаў пасаду міністра ўнутраных спраў.

"Па названай вышэй прычыне ў апошняй рэзалюцыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па Беларусі ўтрымліваецца рэкамендацыя звярнуцца да судоў тых краін, чые законы прадугледжваюць міжнародную юрысдыкцыю па справах аб сур'ёзных парушэннях правоў чалавека, з прапановай пачаць працэсы супраць высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў за забойствы па палітычных матывах, — гаворыцца ў звароце Людмілы Карпенка. — У сувязі з тым, што ў дачыненні да падазронага Ю.Сівакова грамадскім абвінаваўцам па Беларусі пачаты крымінальны пераслед і ў яго ў найбліжэйшы час будзе запатрабавана пісьмовае тлумачэнне, прашу Вас, спадар Пасол, адмовіць яму ва ўязной візе ў вашу краіну да высвятлення ўсіх абставінаў па гэтай крымінальнай справе".

Офіс грамадскага абвінаваўцы быў адкрыты на пачатку ліпеня ў Эслінгене (ФРГ) па ініцыятыве шэрагу дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га і 13-га скліканняў, а таксама некаторых дэпутатаў цяперашняй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Нагадаем, выступаючы 17 чэрвеня на міжнароднай канферэнцыі ў Кіеве, спецыяльны дакладчык Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) па Беларусі Хрыстас Пургурыдэс заявіў, што еўрапейскія парламентарыі звярнуліся "да дзвюх краін, у якіх дзейнічаюць універсальныя юрысдыкцыі, каб праверыць, ці могуць яны пачаць дзеянні ў дачыненні да беларускіх уладаў". Пры гэтым спецдакладчык ПАСЕ не ўдакладніў, пра якія краіны ідзе размова. "Няма сумненняў, што калі Навумаў (*цяперашні міністр унутраных спраў.* — **БелаПАН.**) і Сівакоў наведаюць краіны, дзе ёсць рызыка іх затрымання, яны будуць арыштаваны", — папярэдзіў Х.Пургурыдэс.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**На фота:** *Людміла Карпенка адкрывае помнік свайму мужу Генадзю Карпенку на Маскоўскіх могілках 27 ліпеня 2000 г.*

**Фота photo.bymedia.net**

# Не заўважылі...

*27 ліпеня, дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, штогод адзначаўся шэсцямі і ўрачыстымі мітынгамі. Сёлета гэтая дата засталася па-за ўвагай дэмакратычных партый.*

*"Чаму?"— звярнуліся мы да палітыкаў.*

***Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі:***

— Гэта не зусім так. Ужо на працягу амаль што васьмі гадоў мы сумесна з іншымі дэмакратычнымі партыямі ладзім футбольны турнір "Кубак свабоды імя Генадзя Карпенкі". Ён прымеркаваны менавіта да дня прыняцця Дэкларацыі. Сёлета мы вырашылі перанесці гэтае мерапрыемства на выхадныя, паколькі так зручней для большасці ўдзельнікаў. Плануецца, што ў спартыўных спаборніцтвах возьмуць удзел 5 каманд — зборная журналістаў, АГП, ГА БНФ "Адраджэньне", камуністаў і сацыял-дэмакратаў.

***Вінцук ВЯЧОРКА, старшыня ГА БНФ «Адраджэньне»:***

— Зусім не абавязкова рабіць у гонар гэтай даты вулічную акцыю. Па-першае, сярэдзіна лета, у людзей не вулічны, не акцыйны настрой. Дату трэба памятаць. ГА БНФ "Адраджэньне" віншуе ўсіх грамадзян, якім дарагія ідэалы незалежнасці, з гэтым днём, у які чатырнаццаць гадоў таму быў зроблены істотны крок па шляху здзяйснення ідэалаў 25 Сакавіка. Я не сумняваюся, што у будучай свабоднай Беларусі менавіта 25 Сакавіка будзе Днём незалежнасці, галоўным дзяржаўным святам.

Тое, што адбылося ў 90-м годзе, па-першае, не магло не адбыцца, дзякуючы правільнай, дакладнай тактыцы фракцыі БНФ. Думаю, што многія, хто галасаваў тады за суверэнітэт БССР, наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета, можа, не надта ўсведамлялі, што яны зрабілі... Была зроблена вялікая справа: народ зацвярджаўся як адзіная крыніца суверэнітэту, была ўсталявана дзяржаўнасць беларускай мовы, вызначаны ўсе юрыдычныя магчымасці для пабудовы незалежнай дзяржавы, краіны.


*(Заканчэнне на 2-й стар.)*


**ЭКСПЕРТИЗА**

# Власть и выборы: *давайте сделаем это по-быстрому!*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

За границей демократию называют системой сдержек и противовесов. То есть все выстроено так, чтобы одна ветвь власти не давала другой чересчур распускаться. Естественно, для этого у каждой должен быть четкий набор полномочий. И коллизии в отношениях между ветвями вполне естественны. В Литве вон недавно депутаты вообще сняли президента.

У нас же — своя демократия. И глава государства говорит о "единой команде всех ветвей государственной власти".

Порой складывается впечатление, что и счет матча с участием этой команды известен еще до игры.

Тезис о том, что *"будущий состав законодательного органа будет самым активным и способным плодотворно решать важнейшие задачи на новом этапе развития страны, в единой команде всех ветвей государственной власти"* (здесь и далее цитируем по сообщениям БелТА), прозвучал 27 июля на совещании по вопросам подготовки и проведения парламентских выборов.

Помните, неделей ранее один из журналистов поинтересовался: а зачем вообще проводить такие совещания под эгидой главы государства, коль есть Центризбирком?

Официальный лидер тогда отмел подозрения в каком-то превышении полномочий.

*"Никаких "списков президента Лукашенко" не будет на этих выборах, никакого давления не будет!* — заявил Александр Лукашенко. — *Но я спрошу у местных органов власти, как они выполняют мое поручение: 30 процентов этого состава парламента должны быть в новом парламенте, чтобы обеспечить преемственность, стабильность законодательной власти. Меня это должно волновать? Должно. Я поручил, чтобы не меньше 30, до 40 процентов в новом парламенте было женщин. Это что, плохо, нецивилизованно?"*

Ну и так далее.

На совещании 27 июля глава государства осмотрительно избегал разнарядки в процентах. Однако дух пожеланий не оставлял сомнения: выборы должны пройти по железному сценарию.

*"Эти выборы в парламент важны для главы государства не столько сами по себе, сколько в рамках продления собственных властных полномочий,* — сказал в интервью *"Белорусским новостям"* известный минский политолог **Владимир РОВДО.** — *Когда говорится, например, что в новый состав должна попасть конструктивная часть нынешних парламентариев, имеется в виду, конечно же, не группа "Республика".* **(Недавно глава государства заявил, что такой группы нет, поэтому будем считать ее "самопровозглашенной". — Авт.).** *Имеются в виду те, кто "не рыпался" и четко поднимал руки за проекты, подготовленные в специальном центре при Администрации президента".*

По поводу тезиса, что новый состав парламента призван стать частью единой властной команды, Владимир Ровдо заметил: *"Да, и подразумевается команда, которая обеспечит действующему лидеру желаемый результат на практически неизбежном референдуме по вопросу о третьем сроке. Депутатов просто встроят в эту стратегию".*

Избирательная кампания пройдет по жесткому сценарию властей, убежден эксперт. Кроме того, она станет тестом для вертикали.

*"Главе государства нужны ныне не просто лояльные кадры,* — полагает Владимир Ровдо, — *а кадры, способные обеспечить результат любой ценой".*

На совещании глава государства дал вертикали такой наказ: *"Надо помнить, что мы работаем не ради избирательной кампании, а ради людей. Поэтому злободневным проблемам, потребностям граждан следует уделять серьезное внимание. Наши люди привыкли к тому, что в предвыборную кампанию активизируются все. Надо посмотреть, где мы не выслушали граждан, не помогли, а надо было помочь. Необходимо дойти до каждого человека. И люди должны это понимать не так, что мы перед выборами к ним приходим".*

Да, сложно будет подчиненным. Вдобавок ко всему надо объяснить народу, что кампанейщина — это никакая не кампанейщина, а повседневная забота.

Не обошлось на совещании и без упоминания неуемных антагонистов первого белорусского президента — *"оголтелой деструктивной оппозиции"*. В этой связи вертикали сказано, что *"мы не должны вести себя пассивно, необходимо четко рассказывать людям, кто есть кто".*

Так что новые "сериалы об отморозках" не за горами.

Но это так, ради пущего колорита. А в принципе для нейтрализации неугодных есть вещи и посильнее пропагандистских помоев. Все делается без шума и пыли.

*"Сам избирательный кодекс недемократичен",* — подчеркивает Владимир Ровдо. Он напоминает: недавно были отвергнуты поправки генерала Фролова и его коллег из группы "Республика", направленные на демократизацию избирательного законодательства. И даже более мягкая попытка депутата Владимира Новосяда добиться от Центризбиркома толкований, которые могли бы сделать правила игры более благоприятными для оппозиции, — даже эта попытка была отметена.

*"В итоге механика выборов в Беларуси остается непрозрачной, удобной для разного рода манипуляций",* — заключает эксперт. При этом референдума грядущей осенью очевидно не будет, считает он. Его совмещение с выборами могло бы консолидировать оппозицию. А так она пойдет несколькими колоннами — с предсказуемым результатом.

По поводу благородной цели иметь в Национальном собрании *"30—40 процентов женщин"* политолог отметил следующее. Да, в парламентах скандинавских стран, например, дамы составляют изрядную долю. Но там это результат долгой эволюции партийной системы (не говоря уже о принципиально иных социально-бытовых условиях для прекрасного пола). В итоге произошла феминизация партийной жизни, а уж из этой сферы женщины, будучи зрелыми, подготовленными политиками, уверенно выходят на трассу парламентской гонки. Без всяких разнарядок и послаблений, заметьте.

Понятно, что идея дать волю партиям не кажется нынешней белорусской власти удачной.

*"Наше высшее руководство равняется здесь не на Запад, а скорее на опыт коммунистических времен, когда в Советы положено было выдвинуть столько-то доярок, ткачих и так далее,* — считает Владимир Ровдо. — *Только была эта демократия сугубо декоративной".*

Положа руку на сердце, в нынешней системе белорусской власти парламентская ветвь вообще выглядит ненужным отростком, говорит далее политолог. Но взять да и отсечь ее напрочь — этого мир, конечно, не поймет. Так что приходится проводить выборы.

Только давайте без канители — в один тур, велел на совещании глава государства. Не велики шишки эти депутаты, чтобы тратить лишнее время и деньги.

*("Белорусские новости".)*

# Магнит власти,

*или Об итогах десятилетнего правления Александра Лукашенко*

**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

### Лихой литейщик пуль

Пресс-конференция Александра Лукашенко 20 июля, негласно приуроченная им к десятилетию правления, несомненно, запомнится.

Стремясь убедить белорусскую публику в том, что за десять лет авторитарного правления народное обожание его особы не иссякло, что в качестве вождя нации он незаменим, Александр Лукашенко в ходе общения с прессой очень лихо (в который уже раз за эти годы) отлил увесистую социологическую пулю. *"...Я старался,* — доверительно сообщил журналистам А.Г., — *делать так, как лучше соотечественникам. Ну, вроде получается, вроде нет. Вот по опросам сегодня 65% Лукашенко поддерживают однозначно. Из 35% оставшихся 10% — ни в какую. Остальные колеблются".*

Добавить к этому вроде бы и нечего. О такой электоральной опоре может мечтать любой государственный лидер. Однако какая такая социология добыла столь впечатляющие данные? Не иначе как та, что черпает на жизнь из президентских закромов. Ибо независимая социология, увы, свидетельствует об обратной тенденции.

Несмотря на заверения "вождя" в том, что экономический и политический курс, который он поддерживает на протяжении десятилетия, привел к невиданному на просторах СНГ росту экономики Беларуси и благосостояния ее жителей, белорусы не склонны верить в это *"чудо"*. Июньский национальный опрос общественного мнения (опрошено 1508 человек), проведенный Независимым институтом социально-экономических и политических исследований, показывает, что сегодня 82% взрослого населения страны получают доходы, которые укладываются в размер минимального потребительского бюджета. Последний обеспечивает уровень лишь простого воспроизводства жизни (позволяет поддерживать элементарные физиологические функции). Это означает, что жизнь 82% белорусов так или иначе протекает в зоне бедности и нищеты.

Согласно опросу, 21,5% респондентов считают, что в ближайшие годы социально-экономическая ситуация в Беларуси ухудшится, 46,2% — не изменится, 21,8% — улучшится. Иными словами, если нынешний курс и его вдохновители останутся, 67,7% белорусов в ближайшие годы не видят для себя благоприятной социально-экономической перспективы. Свои надежды в ближайшем будущем большинство белорусских граждан связывают с приходом нового руководства страны. Из числа тех, кто ответил, что социально-экономическая ситуация ухудшится, 80% респондентов хотели бы видеть в стране иного президента. Из числа ответивших, что ситуация не изменится, за иного президента высказались 64% респондентов. Даже среди тех, кому видится перспектива улучшения социально-экономической ситуации в стране, треть высказывается за приход в "Красный дом" другого политика.

Вот это и есть главный итог политического десятилетия Александра Лукашенко, то есть с 65% поддержки получается полная социологическая неувязка. Большинство белорусских граждан (причем значительное), говоря словами самого Александра Григорьевича, уже *"давит на горло"*, требует смены рулевого.

Спрашивается, ради чего тогда понадобилось А.Г. лить социологическую пулю? Во что он метит ею?

Конечно же, в третий президентский срок. *"Скажу вам честно,* — признался он журналистам, — *я пока себя в другой роли не вижу"*. По этой причине "вождь" с порога отмел даже саму мысль о преемнике. *"Выбросьте из головы,* — требует он, — *никогда в Беларуси, пока я Президент, не будет никаких "преемников"*. Совершенно очевидно, что Лукашенко панически боится того, что, уйди он из власти, его могут сдать. В этом случае грехи авторитарного правления обойдутся очень дорого. Поэтому ему нужны гарантии, много надежных гарантий. Ожидать таковых от политика, который сядет в президентское кресло вместо тебя, дело рискованное, ибо преемник, не без оснований рассуждает Александр Лукашенко, *"сегодня твой сторонник, а завтра он может проводить совершенно иную линию"*.

Короче говоря, расставаться с властью *"всенародноизбранный"* не собирается. Для него дело упирается лишь в Конституцию, которая ограничивает пребывание у власти одного лица двумя сроками. Чтобы такое ограничение преодолеть, считает А.Г., *"нужен референдум, и на этом референдуме люди должны сказать: да, Лукашенко, мы тебе разрешаем участвовать в очередных президентских выборах"*.

### Диалог в Ливадийском дворце

Можно не сомневаться, что такого рода референдум давно бы состоялся, не противься этому Москва, от которой "Красный дом" зависит по многим вопросам белорусской политики. Невзлюбили Лукашенко в Кремле, не хотят видеть в президентском клубе после 2006 года.

Журналисты, близкие к официальным источникам информации, распространяют такую версию возможного разговора между российским и белорусским лидерами.

...Глядя исподлобья, Владимир Владимирович тихо, но твердо якобы сказал:

— Мы не готовы поддержать Ваше намерение остаться в президентском кресле на третий срок. Поймите нас правильно, нельзя залезать в Конституцию только потому, что не хочется уходить с поста. Берите пример с меня: я уже заявил, что больше двух сроков в Кремле не задержусь. Опасно портить Конституцию, прорубать в ней окно для того, чтобы переизбираться снова и снова.

Если верить версии, то Александр Григорьевич хоть и был сильно огорчен этими словами, но виду не подал. Мол, не хотите поддерживать? Ну что же, вольному воля. Но я должен Вам заметить, уважаемый коллега, что правлю-то я не в России, а в суверенной Беларуси. Понадобится, не то что на третий срок, пожизненно править останусь. Мои люди меня поддержат, соратники помогут справиться с Конституцией. Как это уже было в 1996 году. Во всяком случае, поднимать руки вверх из-за того, что Кремль меня бросил, я не собираюсь...

С отставкой Бориса Ельцина в Кремле действительно перестали жаловать белорусского начальника. Вместо пряника норовят все больше кнутом или... газовой заслонкой. Не постеснялись даже его "законные" интеграционные козыри отобрать. Тем более не постесняются (если, конечно, посчитают целесообразным) отказаться признавать итоги плебисцита. Вслед за оппозицией кремлевские наблюдатели могут, чего доброго, обнаружить, что на референдуме "Красный дом" играет не по правилам, то есть при помощи административного ресурса корректирует волю белорусского народа в свою пользу. Этими опасениями можно (по крайней мере, отчасти) объяснить, почему "вождь" не спешит узнать мнение белорусов.

Однако на пресс-конференции Лукашенко дал понять журналистам, что референдум он будет проводить (несмотря ни на чье сопротивление) и результаты голосования знает заранее. Возможно, в качестве формальной инициативы будет использовано решение так называемого Всебелорусского собрания, на котором его слезно попросят не покидать белорусов на произвол судьбы. Возможно, формальным поводом послужит нечто иное. В любом случае, убежден "вождь", выиграть референдум у него получится. *"...И на этом референдуме люди должны сказать: да, Лукашенко, мы тебе разрешаем участвовать в очередных президентских выборах".*

Александра Лукашенко беспокоит в народе другое. "Проголосует он за меня в 2006 году, если так сложится ситуация, или нет? Если бы выборы были сейчас — вместо парламентских, допустим, президентские, — я уверен, что мне удалось бы победить... Но впереди еще два года. Как пойдет наша жизнь, как пойдет развитие нашей страны..."

Иными словами, А.Г. отдает отчет в том, что за два года силы людей, которые добиваются его ухода, существенно окрепнут, оппозиция может объединить внутренние и внешние ресурсы. Весьма вероятно, что его соперники соединят усилия и, заручившись поддержкой российских политиков, просто не оставят ему никаких шансов. Вот это-то более всего выводит его из себя.


*(Окончание на 2-й стр.)*

## У жніўні працягнуць адключаць гарачую ваду

У жніўні прадпрыемства "Мінскія цеплавыя сеткі", у адпаведнасці з зацверджаным Мінгарвыканкамам графікам, працягвае адключэнне гарачага водазабеспячэння ў жылых дамах Мінска і рамонт трубаправодаў для падрыхтоўкі іх да нармальнай працы зімой.

Як паведамляе прэс-служба Мінгарвыканкама, з 26 ліпеня па 16 жніўня гарачая вада адключаецца ў мікрараёнах "Сухарава-1", 2, 3, 7, уздоўж вуліц Панчанкі (дамы №№ 4-32), Шаранговіча (дамы 59—63, 60—82), Лабанка (102—110), Ясеніна (41—143), Рафіева (81—113, 66—100), Слабадская (1—61, 65—77).

З 26 ліпеня па 13 жніўня гарачай вады не будзе ў дамах уздоўж вуліц Кульман, Багдановіча, Харужай, Старавіленскай, Куйбышава, Сурганава, Гая, Шаўчэнкі, Кахоўскай, Старавіленскі тракт, Новавіленскай, Шчадрына, Даўгінаўскі тракт, Наватарскай, Земляробчай, Крапоткіна, Карастаянавай, Арлоўскай.

З 26 ліпеня па 19 жніўня гарачае водазабеспячэнне адключаецца ў дамах уздоўж вуліц Гвардзейскай, Грыбаедава, Амуратарскай, Заслаўскай, Цімісразева, Танка, Кальварыйскай, Мельнікайтэ, Дразда, Калектарнай, Караля, Раманаўская Слабада, Сухой, Няміга, Ракаўскай, Шпалернай, Вызвалення, Дзімітрава, Старавіленскай, Старажоўскай, Купалы, Замкавай, Лібкнехта, Глебкі, Матусевіча, Сердзіча, Жудро, Чыгладзе, Лынькова, Украінкі, Варашылава, Гастэлы, Тарханава, праспектаў Пушкіна і Машэрава.

З 10 жніўня па 4 верасня гарачай вады не будзе ў дамах уздоўж вуліц Мендзялеева, Акадэмічнай, Броўкі, Платонава, Чорнага, Калініна, Талбухіна, праспекта Скарыны (дамы №№ 66—80, 79—93).

З 10 жніўня па 25 жніўня гарачае водазабеспячэнне будзе адсутнічаць уздоўж вуліц Клумава, Чабатарова, Даўгабродскай, Будзённага, Стаханаўскай, Грыцаўца, Шчарбакова, Кашавога, бульвара Трактарабудаўнікоў, а з 10 жніўня па 11 жніўня — уздоўж вуліц Бельскага, Адоеўскага і Марцінкевіча.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Прамысловасць хварэе на арытмію

У Віцебску падведзены эканамічныя вынікі паўгоддзя. Побач з пэўнымі поспехамі, да якіх можна аднесці прырост прамысловай прадукцыі на 23,6 працэнта ў параўнанні з адпаведным перыядам 2003 года, гарвыканкам канстатаваў наяўнасць вялікіх запасаў нерэалізаваных вырабаў. Гэта азначае, што прамысловасць горада, як і раней, у значнай ступені працуе на склад, бо вядучым яе стымулам усё яшчэ з'яўляецца не спажывецкі попыт, а прыгожая справаздача перад вышэйстаячай адміністрацыяй.

Нерэалізаваныя запасы на складах прадпрыемстваў дасягаюць 139,6 працэнта да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці, а па асобных наменклатурных пазіцыях стварыўся трохмесячны запас. Гэта — бытавыя гадзіннікі, абутак, гарэлка ды іншыя спіртныя напоі.

На 1 ліпеня ў Віцебску налічвалася 137 стратных прадпрыемстваў, і цяжка верыць, што да канца года ўдасца скараціць іх колькасць на 30 працэнтаў. Тым больш што гэтыя аздараўленчы працэс грунтуецца на бюджэтных ін'екцыях ды адміністрацыйных "накачках".

Так было, да прыкладу, з Віцебскім механічным заводам, для выратавання якога мясцовая ўлада валявым шляхам размеркавала заказы на прадукцыю гэтага прадпрыемства паміж гарадскімі камунальнымі службамі. Для іх завод вырабіў вялікую колькасць смеццевых скрынь і кантэйнераў, за кошт чаго атрымаў хоць невялікі, але рэальны прыбытак.

Але выдаткаваныя на гэта грошы з эканамічнага фонду хутка скончыліся, і гарвыканкам даў кіраўніцтву завода зразумець, што дабрачыннасць улады не бязмежная і новыя заказы прадпрыемства павінна шукаць самастойна. Такіх часовых і сумніўных поспехаў на рахунку прамысловасці Віцебска нямала, і ўсе яны, нават узятыя разам, не вартыя сур'ёзнай увагі. Гэтак жа, як сапраўды сур'ёзныя эканамічныя і тэхналагічныя заваёвы "Віцязя" ды яшчэ некалькіх "цяжкавагавікоў" індустрыі абласнога цэнтра не кампенсуюць страт прадпрыемстваў, якія з году ў год працуюць на склад, запаўняючы яго неканкурэнтаздольнымі па якасці і кошце таварамі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Чэшскае піва на... Лідскім піўзаводзе

У ААТ "Лідскае піва" адбылася першая варка піва, распрацаванага чэшскімі тэхнолагамі. У гэты ж дзень у гандлёвую сетку краіны паступілі новыя гатункі — "Тры каралі-1" (10-працэнтнай шчыльнасці), "Тры каралі-2" (11-працэнтнай) і "Тры каралі-3" (12-працэнтнай шчыльнасці).

Рэканструкцыя варачнага цэха вядзецца на Лідскім піўзаводзе другі год. Увесь гэты час у ёй актыўна ўдзельнічаюць чэшскія спецыялісты, якія паставілі ў Ліду сваё абсталяванне і разам з мясцовымі піваварамі распрацоўвалі рэцэптуру новага напою. Напачатку чэхі будуць пастаўляць і свае солад з хмелем.

Як паведаміла БелаПАН выконваючы абавязкі дырэктара ААТ "Лідскае піва" Святлана Зубко, на пачатку восені прадпрыемства збіраецца прыступіць да выпуску медавухі. Цяпер распрацоўваецца тэхналагічная дакументацыя, заснаваная на беларускіх старадаўніх рэцэптах. Мяркуецца, што гэта будзе слабаалкагольны напой з утрыманнем хмелю 5—6 працэнтаў.

У перспектыве ў Гродне мяркуецца пабудаваць новы завод па выпуску піва па чэшскай тэхналогіі.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

АСОБА

# Доктар ад Бога



Была позняя восень. Вечары цягнуліся, як нітка на верацяне, але ў хаце Пракопа Ярашэвіча сумаваць не ўмелі. І бацькі, і пяцёра іхніх сыноў усякі раз знаходзілі сабе нейкую справу. Тады якраз бацька ладзіў вупраж, бо заўтра трэба было ехаць на кірмаш у мястэчка непадалёку ад Гродна. Маці латала світку. Чатыры старэйшыя сыны ў гумне малацілі жыта, а самы малодшы — Валодзя, бліжэй падсунуўшыся да лямпы, рашаў задачу. То на хвілінку задумаецца, то зноў піша. Раптам ён адсунуў сшытак і з мальбой глянуў на бацьку:

— Татачка, я хачу стаць доктарам...

— Хіба ж я супраць, сынок, — крыху памаўчаўшы абазваўся той. — Але ж сам бачыш, якое няпростае жыццё. Зямлі ў нас мала. Мы тут з вясковымі мужчынамі думаем, як аформіць патрэбныя паперы, каб пераехаць жыць у Бразілію...

У хуткім часе наступілі перамены, і самая страшная з іх — вайна. Да гэтага часу Валодзя паспеў скончыць усяго тры класы. А калі адгрымела крывавая калатнеча, сабраўшы сваю жудасную ахвяру, не мінуўшы і сям'ю Ярашэвічаў, ён ужо быў пераростакм.

Самая блізкая школа знаходзілася за дзевяць кіламетраў. Трэба было наймаць кватэру, браць з сабой харчы. І ўсё ж ён вучыўся. Цярпеў холад на замеценых снегам зімовых дарогах, галадаў, калі з дому не было чаго ўзяць паесці. Але мара стаць доктарам асвятляла яму гэты цяжкі шлях, надавала сілы.

Лёгка паступіў у Гродзенскую фельчарска-акушэрскую школу, бо Валодзя Ярашэвіч заўсёды вучыўся на адны пяцёркі. І тут быў выдатнікам. Ужо да дыплома заставалася ўсяго чатыры месяцы, як прыйшла павестка ісці ў армію. Служыў на Далёкім Усходзе, у Чыцінскай вобласці, у Забайкаллі. Служба была далёкая ад медыцыны, але мара вярнуцца да яе не пакідала ні на мінуту.

Каб не губляць часу на пераезды, вырашыў паступіць у Омскае медыцынскае вучылішча. Думаў, што возьмуць хаця б на трэці курс, бо ўжо ж давучыўся амаль да дыплома, а яму сказалі здаваць экзамены і паступаць на першы...

Не экзамены засмуцілі. Іх ён ніколі не баяўся, а тое, што страчана столькі часу. Але нічога не зробіш...

Скончыўшы медыцынскае вучылішча на выдатна, прыехаў у Беларусь і паступіў у Мінскі медыцынскі інстытут. Праз год перавёўся ў Гродзенскі, каб быць бліжэй да дому.

На працягу ўсёй вучобы ў школе, вучылішчы, інстытуце ў яго не было іншых адзнак, акрамя пяцёрак. І гэта пры тым, што, практычна, даводзілася самому зарабляць на яду і адзенне. Яго цудоўныя, добрыя, працавітыя бацькі мала чым маглі дапамагчы свайму такому настойліваму малодшаму сыну.

Калі быў студэнтам медінстытута, браў начныя дзяжурствы ў бальніцы, а раніцай ішоў на заняткі і атрымліваў пяцёркі. І даражыў імі не толькі таму, што хацеў і любіў вучыцца, але яшчэ і таму, што яны давалі права на высокую стыпендыю. А гэта ў яго становішчы было важна.

— Калі вам хто-небудзь будзе гаварыць, што ўрач прывыкае да людскіх пакутаў, да смерці — не верце. Калі чалавек адыходзіць з жыцця — гэта заўсёды трагедыя. Ва ўсялякім выпадку, для мяне. Памятаю, яшчэ будучы студэнтам медыцынскага інстытута, дзяжурыў ноччу на сястрынскім пасту. Было гэта ў адным з аддзяленняў Гродзенскай абласной бальніцы. І на маім дзяжурстве памёр сямігадовы хлопчык са Шчучына. Раніцай прыехалі бацькі яго праведаць, а мне трэба было выйсці і сказаць ім такую жудасную вестку... Думаў, не перажыву. Ажно ад памяці адбіла. Толькі каля медыцынскага інстытута агледзеўся, што іду па вуліцы ў пакаёвых тапках, бо адразу ж пасля дзяжурства трэба было на заняткі.

Гэты таленавіты, прыгожы чалавек усё сваё жыццё ратуе людзей ад пакут і смерці. Пасля інстытута яго прызначылі дырэктарам Астравецкага медыцынскага вучылішча, але з адміністрацыйнай работы рваўся да ўрачэбнай практыкі, бо гэта была яго мара, яго лёс. У медыцынскім інстытуце ён займаўся на кафедры нервовых захворванняў і хацеў дасягнуць у гэтай галіне высокага майстэрства. Нарэшце (праз тры гады) Уладзіміра Пракопавіча Ярашэвіча прызначылі загадчыкам абласной палiклінікі і прапанавалі работу неўрапатолага, да якой ён так імкнуўся.

Пасля ён 28 гадоў узначальваў работу неўралагічнага аддзялення абласной бальніцы, адначасова з'яўляючыся галоўным неўрапатолагам вобласці. Уладзімір Ярашэвіч — урач вышэйшай катэгорыі, яшчэ ў часы БССР атрымаў званне заслужанага ўрача. І цяпер, знаходзячыся, так бы мовіць, на медыцынскім Алімпе, ён пастаянна ўдасканальвае сваё майстэрства, шмат чытае, цікавіцца навінкамі. Дваццаць два разы быў на спецыяльных курсах у Маскве, Кіеве, Казані, удзельнічаў у міжнародных сімпозіумах.

Паралельна з асноўнай работай пачаў займацца мануальнай тэрапіяй і дасягнуў у гэтай справе вялікіх поспехаў. Да яго едуць лячыцца людзі не толькі з Гродзеншчыны, але і з усёй Беларусі, бо Ярашэвіч, што называецца, урач ад Бога. Мне расказвалі такі выпадак. Калі Уладзімір Пракопавіч яшчэ працаваў загадчыкам неўралагічнага аддзялення, з аднаго раёна прывезлі хворага хлопчыка. У цяжкім стане. Мясцовыя эскулапы давялі, не палічылі патрэбным параіцца з высокакваліфікаванымі спецыялістамі. Дзіця было пры смерці. Бацькі ў роспачы. Доктару Ярашэвічу хапіла некалькіх хвілін, каб правільна паставіць дыягназ і назначыць правільнае лячэнне. Хлопчык хутка папраўіўся.

Калі пайшоў на пенсію, яшчэ нейкі час узначальваў работу неўралагічнага аддзялення, а з мінулага года перайшоў працаваць у медыцынскі цэнтр "ЛАДЭ". Людзі ідуць да яго на прыём і спадзяюцца на дапамогу так, як на Божую ласку.

У яго цудоўная, інтэлігентная жонка Галіна Аляксееўна — педагог па адукацыі, і дзве дачкі. Лена, як і тата, стала неўрапатолагам. Ужо мае вышэйшую катэгорыю. Жана — медсястра. У сем'ях дачок растуць унукі.

А ён яшчэ зусім малады і прыгожы. З вялікім жаданнем і ўменнем працаваць, са шчаслівым бляскам у вачах ад таго, што, нягледзячы ні на якія цяжкасці і перашкоды, дабіўся сваёй мэты. Ад таго, што кожны дзень збаўляе людзей ад пакут.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Гродна.*

ПУЛЬС

## Плошчы на дзяржаўных прадпрыемствах выкарыстоўваюцца неэфектыўна

Больш за 1,8 млн. квадратных метраў плошчы ў будынках і збудаваннях рэспубліканскай уласнасці не выкарыстоўваюцца альбо выкарыстоўваюцца неэфектыўна. Такія даныя прыводзіць прэс-служба Міністэрства эканомікі Беларусі.

Пры гэтым прадпрыемствы і арганізацыі змогуць здаваць у арэнду 263 тыс. квадратных метраў, а 231 тыс. квадратных метраў — прадаць. 1 млн. 350 тыс. квадратных метраў плошчы цяпер знаходзяцца на стадыі перапрафілявання, пастаноўкі на кансервацыю, рэканструкцыі, капітальнага рамонту, а таксама прызначаны для зносу, перадачы ў камунальную ўласнасць ці бязвыплатнае карыстанне.

У сувязі з такім становішчам спраў, Мінэканомікі запрашае патэнцыяльных арэндадаўцаў і пакупнікоў памяшканняў у будынках рэспубліканскай уласнасці браць удзел у рэгулярна праводзімых аўкцыёнах.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## «Мерседэс» сутыкнуўся з «Жыгулямі»

У выніку дарожна-транспартнага здарэння, якое адбылося паблізу ад вёскі Сахоненкі Шумілінскага раёна, загінулі два чалавекі.

Грамадзянін Літвы, што кіраваў грузавой аўтамашынай "Мерседэс", выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з "Жыгулямі", якімі кіраваў 41-гадовы жыхар Віцебска. У выніку ДТЗ вадзіцель легкавой аўтамашыны змешчаны ў бальніцу, а яго 40-гадовая жонка і 17-гадовы сын загінулі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## За судаком «пераедзе» сом...

Супрацоўнікі Інстытута заалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі завяршылі яшчэ адзін праект па засяленні ў вадасховішча Гута Пружанскага раёна Брэстчыны ракаў, якія раней там не вадзіліся. Як расказаў БелаПАН старшы дзяржінспектар абласной інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету Дзмітрый Мурын, зараз, як ніколі, актыўна вядзецца зарыбленне вадаёмаў вобласці. Вясной у 22 вадаёмах рэгіёна атрымалі "прапіску" маляўкі шчупака, карпа, карася, стракатага таўсталобіка і белага амура. А восенню да іх "пераедзе" судак і ў перспектыве — сом еўрапейскі.

"Усе гэтыя мерапрыемствы абумоўлены тым, што за апошнія 10 гадоў у вадаёмах Брэстчыны значна паменшылася колькасць каштоўных відаў рыб, а некаторыя апынуліся на мяжы знікнення. Такая сітуацыя склалася таму, што з-за адсутнасці вясновых паводак скарачаецца плошча нерасцілішчаў, шмат малявак гіне ў выніку прымянення браканьерамі ўзрыўчаткі, а таксама хімікатаў і электравудаў", — дадаў Д.Мурын.

Дарэчы, на тэрыторыі вобласці сёння ёсць 336 азёр, вадасховішчаў і сажалак агульнай плошчай звыш як 26 тысяч гектараў і 127 участкаў рэк працягласцю 3734 кіламетры, прыгодных для рыбагаспадарчага выкарыстання.

## Адкрыўся праваслаўны лагер

У вёсцы Адрыжын Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці пачаў работу праваслаўны лагер. Больш за 20 пінскіх дзяцей і падлеткаў ва ўзросце ад 8 да 17 гадоў разам са сваімі духоўнымі настаўнікамі змогуць адпачыць на беразе возера Завышша.

Як і ў звычайным дзіцячым лагеры, рабяты ўдзельнічаюць у гульнях, ходзяць у паходы, купаюцца і загараюць.

Аднак у адрозненне ад іншых лагераў у Адрыжыне дзень пачынаецца не з ранішняй лінейкі, а з сумеснай малітвы. Потым юныя пінчане слухаюць лекцыі на духоўныя тэмы, якія ім чытае прыходскі святар айцец Серафім.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**



Спякота...

Фота photo.bymedia.net

## Не заўважылі...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

***Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня БСДП (Народная Грамада):***

— На мой погляд, зараз не зусім спрыяльны час для масавых акцый. Справа ў тым, што беларусы, на мой погляд, яшчэ не гатовы рызыкаваць свабодай, дабрабытам дзеля абароны дэмакратыі. Дзеля абароны незалежнасці гатовы — пра гэта засведчылі шматлікія акцыі, што праводзіліся ў той час, калі вяліся розныя гаворкі пра саюзнае будаўніцтва і здавалася, што Беларусь вось-вось знікне з мапы Еўропы.

Што датычыць нашай партыі, то, па-першае, як я ўжо сказаў, не самы спрыяльны час для масавых акцый, па-другое, вельмі цяжка зрабіць годную акцыю толькі ў тым месцы і па тых маршрутах, на якія даюць санкцыю ўлады. А несанкцыянаваныя акцыі наша партыя не робіць.

Дату 27 ліпеня я буду адзначаць у коле сям'і, сяброў.

***Мечыслаў ГРЫБ, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады:***

— Зараз усе занятыя падрыхтоўкай да выбараў. Да таго ж 27 ліпеня, дзень прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце, аказаўся пасля асноўнага дзяржаўнага свята 3 ліпеня. Таму, на мой погляд, святкаваць пасля цяжэй, чым напярэдадні... Зрабіць масавую акцыю летам, у час спякоты, лецішчаў, адпачынкаў, даволі цяжка, ніякіх сур'ёзных вынікаў яна мець не будзе.

Што датычыць асабіста мяне, то я прытрымліваюся толькі даты 27 ліпеня, іншай даты Дня незалежнасці фактычна для мяне не існуе.

***Валерый УХНАЛЁЎ, сакратар Цэнтральнага камітэта Партыі камуністаў Беларускай:***

— Мы лічым, што незалежнасць наша краіна набыла ў 18-м годзе, калі утварылася БССР. Так што дату 27 ліпеня мы ніколі асобым чынам не адзначалі.

Апытвала
**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## Вызвалены...

Аляксандр Лукашэнка сваім указам вызваліў Алега Ермаловіча ад пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Швецыя, а таксама ў Каралеўстве Данія і Каралеўстве Нарвегія па сумяшчальніцтве, паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы.

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС Беларусі Руслан Есін, гэта планавая ратацыя. Ермаловіч працаваў паслом у Швецыі крыху больш за чатыры гады. Цяпер, згодна з існуючай практыкай, дыпламат паступіў у распараджэнне МЗС.

**Андрэй СЕРАДА.**

# Магнит власти,

## *или Об итогах десятилетнего правления Александра Лукашенко*

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

### «Бывшие» поднимают головы

В этой связи белорусский "вождь" вполне открыто демонстрировал журналистам свой гнев и возмущение. Особенно досталось "предателям". Для них "вождь" отлил самые ядовитые пули. В этой части пресс-конференция отчетлива показала: Лукашенко мыслит вполне реалистично, когда касается вопроса, откуда и от кого исходит наибольшая угроза его власти. По его словам, *"это все "бывшие" плюс пенсионеры, которые очень успешно годами сидели у кормушки Лукашенко: Войтович, Кравченко, Козулин и прочие. Они же "хрюкали у кормушки" Лукашенко! Окрепли, встали на ноги, проворовались или заняли просто предательскую позицию. Ну, вы бы их держали у себя в команде? Нет. И я их отправил. Они сегодня захотели быть президентами. Я говорю: ребята, ну погодите, через два года президентские выборы, не торопитесь, сгорите ведь, сожгут вас. Если вы хотите быть президентами, потерпите, вылезете прямо перед этими выборами"*.

Если из этого фрагмента выступления убрать эмоциональные *навороты*, то в оставшемся содержании отчетливо просматривается тезис о том, что в сознании *"вождя"* именно номенклатурная среда является главным источником опасности для продолжения его политической карьеры. Надо признать, что это правильное опасение. Так называемые *"бывшие"* интегрированы в номенклатурный класс, который, как показывают независимые социологические опросы, в своем большинстве давно устал от автократического прессинга. Как раз те, что *"хрюкали у кормушки Лукашенко"*, сегодня способны перевербовать на свою сторону тех *"однополчан"*, кто еще продолжает служить режиму. Номенклатура, в руках которой административный ресурс, государственные рычаги, огромное влияние в бизнесе и связи в России, вполне способна отвернуться от утомившего ее *"хозяина"* и пойти за своим выдвиженцем. Поэтому-то так нервничает *"вождь"*. Его не на шутку беспокоит то, что многие (бывшие в его команде) уже заняли позицию *низкого старта*. Это означает, что они настроены весьма решительно и расчетливо. А не так, как хотелось бы А.Г., который советует им вылезать *"прямо перед выборами"*, то есть тогда, когда сделать что-либо серьезное просто невозможно, не хватит времени.

Номенклатурные оппоненты Александра Лукашенко отлично понимают: успех в предстоящем сражении за власть в Беларуси во многом будет зависеть от того, насколько умело и тактически грамотно они выстроят линию взаимоотношений с российским политическим классом. Им хорошо понятно то, что некоторое время назад публично (перед белорусскими журналистами) сформулировал главный кремлевский политтехнолог Глеб Павловский. *"Москва,* — сказал он, — *не будет ставить или поддерживать фигуру, которая не выдвинута самим обществом... Фигуру играет ситуация и правильно выбранная тактика в ситуации. Фигура может быть сделана благодаря тому, что политик может укрупниться, если он правильно поймет, что надо делать в этой ситуации. Вчера он был как бы никто, а сегодня он лидер"*.

Хорошо понимает мысли кремлевского политтехнолога и Александр Лукашенко. Защищая свои позиции, он старается не допустить, чтобы на белорусской политической сцене появилась фигура, за которой в Кремле увидят общественную поддержку.

Он уже давно осознал, что как раз из числа *"бывших"* может выйти та самая фигура, которая при правильно выбранной тактике способна укрупниться до масштаба национального лидера. Поэтому с такой неистовостью он поносил на пресс-конференции некоторых бывших членов своей команды. Однако на данный момент едва ли не больше других (во всяком случае, так показалось по ходу пресс-конференции) его раздражает **Александр КОЗУЛИН**. Именно в адрес этой фигуры была направлена самая ядовитая филиппика. "Вождь" не скрывал своего возмущения: *"Чего не хватало Козулину? Я его, простите меня, на "помойке" нашел, не я нашел, а он там оказался волею той власти. Я его вытащил, вымыл, вытер, отшлифовал, сделал ректором и членом Правительства. Что тебе надо еще?"*

Не знаю, какую помойку имел в виду А.Лукашенко, но всем известно, что до ректорской должности Александр Владиславович Козулин работал первым заместителем министра образования. Да и до этого в бомжах он не числился. Впрочем, это тема отдельного разговора.

### Этот «нехороший» Козулин

Что же такого особенного (если говорить о политическом соперничестве) есть в фигуре Козулина, что так нервирует Лукашенко?

Отставной ректор Белгосуниверситета, по-видимому, принадлежит к тому небольшому числу белорусских чиновников, кто не боялся и не боится "вождя", не пасует перед его грозным видом. Умеет, когда надо, гнуть свою линию, не опасаясь высочайшего гнева. Масштаб этой личности в политическом измерении представить пока трудно, поскольку Козулин в политике как таковой себя по-настоящему еще не раскрывал. Можно попытаться представить лишь политический потенциал этой фигуры.

При желании в натуре Козулина (опираясь на факты и детали его биографии) нетрудно разглядеть смелого, расчетливого игрока, который умеет рисковать и работать на публику. Многие помнят, как в дни празднования университетского юбилея Козулин спустился в район массовых гуляний на... парашюте. Пожалуй, это покруче игры в хоккей или катания на роликовых лыжах по проспекту Машерова. Что бы ни сочиняли о его руководстве университетом, но за годы ректорства он многое реформировал и отстроил в главном учебном заведении страны. Осторожничая и не нарываясь, он вряд ли сделал бы то, что сделал в этом вузе.

У Козулина репутация крепкого менеджера, который знает, как организовать работу системно и эффективно. Отчасти поэтому Лукашенко так долго терпел его *"номера"*. Но главная причина долготерпения "вождя", конечно, в другом. По-видимому, у экс-ректора есть *"крыша"*, с которой АГ вынужден считаться. Осенью 2001 года университет попал в зону пристального внимания президентских контролеров. Рассказывали, будто "вождь" был разъярен по причине того, что на президентских выборах университетское студенчество в своем большинстве не поддержало его кандидатуру. Рассказывали также, что сам Козулин контактировал с противниками Лукашенко (в частности, бывшим шефом КГБ Мацкевичем) и был близок к тому, чтобы выставить свою кандидатуру на выборах 2001 года.

Одним словом, все ожидали, что кресло ректора БГУ вот-вот окажется вакантным. Все шло к этому. Был даже момент, когда Белорусское телевидение передало официальную информацию о том, что Козулин прошел процедуру согласования в парламенте и отправляется представителем Беларуси в ООН. Но потом Лукашенко дал отбой. Говорят, посчитал нецелесообразным отпускать Козулина от себя. Однако не исключено, что за Александра Владиславовича вступились некие влиятельные лица, пойти против которых у Лукашенко не хватило духа. Что это за лица, сказать трудно. Поговаривают, что они российского происхождения и будто бы связаны с Кремлем.

Как бы ни было, но защита у Козулина просматривается. И это в определенной мере заставляет его оппонентов считаться с этим. Обрушившись на Козулина с резкой филиппикой, Лукашенко невольно выдал свой страх, свое волнение по поводу того, что именно экс-ректор, сделавшись политическим игроком, может прервать его президентскую карьеру. Как говорится, "вождю" видней. Он лучше других знает об организаторских способностях этого человека, его связях в различных кругах белорусской интеллигенции, бизнеса, номенклатуры. Знает о том, что очень многие, кто сегодня представляет белорусскую элиту, государственное чиновничество, обязаны Козулину, ибо в свое время с его благословения их детки попали в главный вуз страны. Конечно же, знает Лукашенко и о его российских покровителях... И, возможно, не только российских.

### Отщепенцев в парламент не пускать!

Разумеется, борьба против поднимающих голову *"бывших"* не единственная проблема в ряду проблем, которые Александр Лукашенко вынужден решать, чтобы удержать власть.

В политике ему удалось многое. По-настоящему крупным политическим итогом его десятилетнего правления следует признать зачистку политической площадки страны от демократических посевов, которые пышно расцвели в первые годы белорусской независимости. В Беларуси утвержден режим неограниченной личной власти. Демократическое содержание из политического процесса изгнано. Оставлена (хотя и в урезанном виде) лишь демократическая форма политической жизни. Например, формально в стране существует разделение властей, проводятся выборы в те или иные представительные органы.

Поэтому, чтобы избежать, так сказать, порождающего эффекта формы, не допустить прорастания из нее новой демократической *"заразы"*, АГ приходится постоянно отслеживать и контролировать все оставшиеся от демократии формальные институты и процедуры. На данном этапе его беспокоят октябрьские выборы в парламент. Его задача — не допустить, чтобы туда прорвались люди от оппозиции и образовали там демократическую площадку. Наподобие той, которую создали члены парламентской группы "Республика". С него хватит головной боли, которую доставляют депутаты-"перевертыши" Фролов, Скребец, Парфенович.

В этой связи Александр Лукашенко дал понять журналистам и белорусской общественности, что использует весь административный ресурс, чтобы не допустить оппозицию к парламентской трибуне. *"Предателей, отщепенцев и людей, которые сейчас переоделись, как волки в овечью шкуру, народ рассмотрит. Если не рассмотрит, мы ему поможем. Но на победу,* — предупредил главный начальник страны, — *они вряд ли смогут рассчитывать"*.

В общем, пресс-конференция показала, что минувшее десятилетие, как ни восхвалял его Александр Лукашенко, отнюдь не золотой период белорусской истории. Жаль только, что далеко не все присутствовавшие на ней журналисты поняли это печальное обстоятельство. Многие, кто по наивности, кто из желания приглянуться "вождю", подобострастно смотрели ему в рот и согласно кивали головами. Грустно было видеть, как вопрошавшие моментально превращались, образно говоря, в мальчиков, подносивших теннисные мячи чемпиону Уимблдона.

Впрочем, были и те, кто подносил кактусы. Самый большой кактус поднес Юрий Карманов "Ассошиэйтед Пресс", спросивший Александра Григорьевича о его реакции на доклад Христоса Пургуридеса "О пропавших людях в Беларуси". Этот депутат Парламентской ассамблеи Совета Европы в ноябре прошлого года приезжал в Минск и специально изучал вопрос об исчезнувших оппозиционных политиках. В Брюсселе он сделал сообщение, в котором пришел к выводу, что компетентными белорусскими властями не было проведено надлежащее расследование, что высшие госчиновники могут быть сами связаны с исчезновениями.

Кажется, ни один другой вопрос не вызвал большего раздражения и стресса. Александр Лукашенко готов был сорваться, было видно, что это тема его сильно напрягает. *"Я этого человека не знаю, знать не хочу, и никак не отношусь к его докладу, и не читал его доклад"*. И так далее в таком ключе.

Потом в ходе пресс-конференции он еще два или три раза возвращался к злополучному Пургуридесу. С чего бы это? Один знакомый (бывший атеист) по поводу "высочайшей" реакции на Пургуридеса невпопад почему-то вспомнил цитату из Библии: *"...Как пес возвращается на блевотину свою"*.

### Чтобы не выходили из дома

И последнее. На следующий день после пресс-конференции в столице по случаю десятилетия лукашенковского правления состоялась политическая акция оппозиции, которую организовали депутаты-"республиканцы". В районе ЦУМа группу молодых демонстрантов атаковали омоновцы и жестоко отдубасили. Десятки участников демонстрации были арестованы и подвергнуты административному наказанию. В чем политический смысл произошедшего насилия?

А.Лукашенко, пожалуй, не сомневается в том, что политическая битва за парламент будет прологом к битве за президентство. Ему, кровь из носа, важно не пропустить в Палату представителей оппозиционеров и тех, кто может, как он выражается, *"кинуть"*. Но не менее важно воспрепятствовать позитивным процессам в лагере тех, кто добивается ликвидации созданного им режима. Чтобы в ходе парламентской кампании оппозиция не научилась собираться вместе. Чтобы внутренние оппоненты не объединились, не нашли общий язык с российскими политиками, не притянули на свою сторону широкие общественные слои. Чтобы *"наши шатающиеся в Москве бывшие генералы"* не создали единый фронт борьбы с белорусской автократией. Такая консолидация понизит его, Лукашенко, шансы и существенно повысит шансы кого-нибудь из *"бывших"*. Жестокое обращение с демонстрантами 21 июля "вождь" рассматривает как своеобразную профилактику массового сознания от соблазна поддаваться на призывы и агитацию политических оппонентов. Как способ предостеречь людей от того, чтобы они шли в ряды сопротивления диктатуре. Расчет таков: страх перед насилием должен остановить обывателя еще на выходе из дома. У организаторов же от оппозиции насилие отобьет желание рассматривать уличные митинги и демонстрации как законное средство политического давления. А российским и западным *"подстрекателям"* покажет, кто в доме хозяин.

Итак, десятилетие Александра Лукашенко у власти — свершившийся факт. Однако, как заметил один остроумный человек, некоторые юбилеи имеют обычай затягиваться и перерастать в другие юбилеи. Недолго осталось ждать полного прояснения ситуации.

